# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 31 мая 1994 года | № 56 (10756) | Цана 100 руб.





## ПАРТНЁРСТВА... ПАРАБКА І ПАНА

**Прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі апошнім часам сталі звычайнай справай. Напачатку ў яўлялася такой і сустрэча з міністрам абароны Рэспублікі Беларусь П.Казлоўскім. Аднак размова, якая адбылася, думкі і меркаванні, вынесеныя з яе, не могуць пакінуць раўнадушным.**

У сярэдзіне апошняй дэкады мая беларуская дэлегацыя, якую ўзначальваў міністр, разам з такой жа дэлегацыяй Расіі наведала штаб-кватэру НАТО ў Брусселі і мела сустрэчы з кіраўнікамі гэтага ваенна-палітычнага саюза.

Дэлегацыю з Беларусі, паводле слоў П.Казлоўскага, прынялі дружалюбна. У сталіцы НАТО якраз праходзіла штогодняя сесія прадстаўнікоў дзяржаў — членаў Паўночнаатлантычнага саюза, на якой разглядаліся праблемы супрацоўніцтва дзяржаў блока на сучасным этапе. Як і трэба было чакаць, шмат увагі было ўдзелена "прымерванню" розных краін, асабліва Усходняй Еўропы, да праграмы "Партнёрства ў імя міру", якую прапанаваў для ўсіх жадаючых "пасябраваць" з НАТО прэзідэнт ЗША Б.Клінтан. Грузія і Азербайджан, напрыклад, падпісалі ўжо дакументы аб далучэнні да гэтай праграмы, паведаміў міністр. У палітычных колах Беларусі гэтая прапанова абмяркоўваецца таксама.

Ну а што можа даць нашай рэспубліцы далучэнне да клінтанаўскай праграмы? Ці забяспечыць нармальнае развіццё эканомікі, спакой і суверэнітэт Беларусі прапануемае "Партнёрства..."? Гэтыя і многія іншыя пытанні цікавілі прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі.

Як і трэба было чакаць, міністр даваў даволі вычарпальныя адказы на пытанні журналістаў. І ўсё ж недзе ў глыбіні душы засталося меркаванне, што, нягледзячы на істотную змену расстаноўкі палітычных, ваенных і іншых сіл на Еўрапейскім кантыненце, НАТО ёсць НАТО. Возьмем хоць бы такі факт. Некалі стратэгі гэтага блока ўсяму свету даводзілі: іхні саюз існуе таму, што ў цэнтры Еўропы стаяць сілы Варшаўскага Дагавора, якія, варта толькі пасла біць натаўцам сваю пільнасць, адразу ж зоймуць увесь кантынент. Сёння Варшаўскага Дагавора няма. Цяперашнія ўзброеныя сілы Беларусі, Расіі, Украіны — гэта ўжо не армія СССР. Дык для чаго існуе НАТО? Выконваць рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН? А можа, народы канфліктуючых сёння краін без "памагатых", якія прылятаюць на "фантомах", разбяруцца самастойна?..

Вось гэтым пытаннем натаўскія стратэгі, як сведчаць факты, задавацца і не думаюць, бо яно, калі і ўзнікала ў каго на той сесіі, не было ўспрынята "гаспадарамі" як вартае іх увагі. Менавіта на такую думку наводзіць і адказ П.Казлоўскага на гэтае пытанне.

Тое ж і з праграмай "Партнёрства ў імя міру". Яна фактычна прадугледжвае існаванне паноў і парабкаў, інтарэсы якіх ніколі не супадалі і не супадуць заўтра.

*Іван АБАБУРКА, аглядальнік "Мінскай праўды".*

## І куды меліяратару падацца?

Цяпер, як вядома, дзяржава ўжо не «цягне на сваёй спіне» расходы на меліярацыю. Ды і асушаліся часам такія землі, якія нярэдка давалі лепшую аддачу, чым пасля «абнаўлення».

У ПМК-23 шукаюць выйсце з тупіка, імкнуцца захаваць калектыў, не «растрэсці» матэрыяльную базу. Каб плаціць людзям зарплату, трымацца на плаве, тут праявілі гаспадарчую прадпрымальнасць. Заключылі дагавор з гарадскімі ўладамі на будаўніцтва ля Нясвіжа станцыі па абезжалезванню вады. Ужо ўзведзены «каробкі» кацельні, адміністрацыйнага будынка. У калгасе «Слава» меліяратары добраўпарадкоўваюць машынны двор. Хутка пачнуць класці асфальт на фермах калгаса «17 верасня». Адным словам, зарабляюць «капейку» нестандартным «ходам».

*(Наш кар.)*

## МІЛЫХ ПРАСЦЯГАЎ КРАСА

**Іван ВАРАЎКА**

Пагоркі, лясы і лагчыны,
Балоты, лугі і куп"ё –
Усё гэта кут мой айчынны –
Святое багацце маё.

Гляджу на палі, на азерцы,
На мілых прасцягаў красу
І з гонарам, горда у сэрцы
Радзімую мову нясу.

Бярэзнік мне свеціць
бяростай,
Крыніца жалейкай журчыць.
На мове радзімай так
проста
З бацькоўскай зямлёй
гаварыць.

У светлай любові прызнанне
Зямлі гэтай ціха скажу:
Дуброва зязюлі куваннем
Мне шчыра пацешыць душу.

Адорыць аселіца звонам
Вясёлых стракоз і чмялёў,
І дуб над жытнёвым загонам
Раскажа паданні вякоў.







Фота Сяргея БРУШКО.

## САМЫЯ ЧЫСТЫЯ ЎГНАЕННІ

Іх выпуск асвоены на Чацвёртым рудаўпраўленні "Беларуськалія". Справа ў тым, што для таго, каб калійныя ўгнаенні не злежваліся, не ператвараліся зноў у камень, звычайна прымяняюцца дабаўкі ў выглядзе амінаў. Даволі таксічных. Вучоныя з Санкт-Пецярбурга прапанавалі замяніць аміны кампазіцыяй рэчываў на базе ферацыянідаў, ці жоўтай крывяной солі. Яны зусім бясшкодныя і нават дабаўляюцца ў кухонную соль.

Па прапанаванай тэхналогіі на рудаўпраўленні выпрацавалі дзве тысячы тон тукаў. Прадукцыя атрымала высокую ацэнку. Ёсць усе падставы спадзявацца, што і попыт на гэтыя ўгнаенні ўзрасце. Для калійшчыкаў, якія часта затавarваюцца гатовай прадукцыяй, гэта вельмі важна.

Цікава, што сёння, калі рудаўпраўленні набылі ў рамках аб"яднання пэўную самастойнасць, кожнае з чатырох прадпрыемстваў актыўна шукае шляхі павышэння эфектыўнасці вытворчасці. На тым жа Чацвёртым РУ, напрыклад, рыхтуюцца да выпуску доследнай партыі кухоннай солі тыпу "Экстра". Спецыялісты заяўляюць, што іх прадукцыя будзе значна лепшая, чым соль, якая здабываецца на Першым рудаўпраўленні. Што іх тэхналогія павінна вывесці Чацвёртае РУ на першае месца сярод экспарцёраў солі не толькі ў Беларусі, а і ў краінах СНД. Стымулюе творчы пошук калійшчыкаў не толькі гордасць першапраходцаў, а і вялікая эканамічная выгада. Да якой павінны імкнуцца і іншыя вытворцы.

*/Наш кар./.*

■ Спажывецкая кааперацыя

## Залежнасць... ад сябе

На ўскраіне вёскі Слагавішча здалёк відаць пабудовы падсобнай гаспадаркі каапнарыхтпрома Лагойскага райспажыўсаюза. Тут адкормачнік маладняку буйной рагатай жывёлы, склады канцэнтратаў і грубых кармоў, воданапорная вежа. У цялятніку гадуецца 150 закупленых ад насельніцтва бычкоў.

Побач з гэтым драўляным памяшканнем узводзіцца новы адкормачнік на 250 галоў маладняку. Блочны каркас яго зманціравалі мантажнікі Пухавіцкай ПМК, на што затрачана 79,4 мільёна рублёў. Аднак давядзецца выдаткаваць яшчэ мільёнаў 200, каб закончыць. Гэтым цяпер і займаюцца будаўнікі Лагойскай МПМК-198.

Кааператары шчыра зацікаўлены ў тым, каб адкормачнік у бліжэйшы час уступіў у строй. У такім выпадку зменшацца затраты на яго ўзвядзенне, каапнарыхтпром хутчэй атрымае прыбытак. У двух памяшканнях будзе гадавацца 400 бычкоў.

Каб утрымліваць такі статак, запатрабуецца нямала кармоў. І аб гэтым праяўляецца клопат. У распараджэнні кааператараў 194 гектары ворнай зямлі. Ёсць набор сельскагаспадарчай тэхнікі для яе апрацоўкі і догляду пасеваў.

Перад сабой кааператары Лагойшчыны паставілі задачу: зменшыць да мінімуму залежнасць ад калгасаў і насельніцтва пры закупе жывёлы. Выклікана гэта тым, што ва ўмовах цяперашняга нестабільнага рынку пастаўшчыкі дыктуюць свае патрабаванні, шукаюць больш выгаднага для сябе пакупніка. Бываюць і перабоі іншага характару. Летась калектыў каапнарыхтпрома прадаў 39 тон мяса. Сёлета за чатыры месяцы яго рэалізавана каля 6 тон, прыбытак склаў амаль 8 мільёнаў рублёў. На перапрацоўку ў каўбасны цэх райспажыўсаюза кожны месяц пастаўляецца па 10—19 галоў буйной рагатай жывёлы сярэдняй вагой 400 кілаграмаў.

*Генадзь ХОЦЫН.*

## КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД ПАЧНЕ ПРЫЁМ ЗАЯЎ ПЕРШАГА ЛІПЕНЯ

Працэсуальны дакумент, які прызначаны забяспечыць парадак разгляду спраў, ствараецца ў гэтыя дні ў Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь. Яго пасяджэнні, што праходзяць цяпер амаль штодзённа пад старшынствам Валерыя Ціхіні ў будынку Вярхоўнага Савета, прысвечаны вырашэнню арганізацыйных пытанняў. Ідзе дасканалая паартыкульная прапрацоўка дакумента, якая дасць магчымасць Канстытуцыйнаму суду стаць дзейсным інструментам абароны Асноўнага Закона Рэспублікі Беларусь.

Для забеспячэння дзейнасці суда створаны шэсць рабочых груп, фарміруецца яго сакратарыят. Мяркуецца ў бліжэйшы час вырашыць пытанні фінансавання, месцаразмяшчэння Канстытуцыйнага суда, у стадыі распрацоўкі знаходзяцца апісанне і ўзоры судовых мантый, дзелавой і працэсуальнай дакументацыі.

На мінулым тыдні рашэннем Канстытуцыйнага суда пры ім быў утвораны навукова-кансультатыўны савет. У гэты грамадскі орган увайшлі 16 вучоных і спецыялістаў-практыкаў у галіне права. Сустаршынямі савета выбраны дактары юрыдычных навук, прафесары БДУ Анатоль Галаўко і Сцяпан Драбязка.

Навукова-кансультатыўны савет будзе аказваць дапамогу Канстытуцыйнаму суду ў правядзенні аналізу законнасці ў краіне, у падрыхтоўцы пасланняў Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь і будучаму Прэзідэнту краіны. Для поўнага выкарыстання дасягненняў сусветнай юрыдычнай навукі і практыкі ў канстытуцыйным будаўніцтве савет прызначаны садзейнічаць умацаванню супрацоўніцтва з айчыннымі і замежнымі навуковымі цэнтрамі і прававымі ўстановамі.

Канстытуцыйны суд Беларусі пачне прыём прапаноў і заяў 1 ліпеня. Звароты ў суд могуць датычыць толькі пытанняў парушэння канстытуцыйнай законнасці. І хоць штодзённа ў адрас Канстытуцыйнага суда прыходзяць пісьмы са словамі "звяртаемся да вас, як да апошняй судовай інстанцыі", ён не мае права прымаць да разгляду скаргі і апеляцыі грамадзян на рашэнні судоў па канкрэтных крымінальных, грамадзянскіх і адміністрацыйных справах.

*Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь— БЕЛІНФАРМ.*

## Злёт этнографаў-краязнаўцаў

Адбыўся абласны злёт юных этнографаў-краязнаўцаў, у якім прынялі ўдзел больш за 150 школьнікаў. Для іх была наладжана цікавая экскурсія па Траецкім прадмесці і Верхнім горадзе сталіцы нашай рэспублікі. Перад удзельнікамі гэтага мерапрыемства выступілі артысты народнага тэатра «Жывое слова» Беларускага педагагічнага універсітэта.

На другі дзень юныя злётаўцы знаёміліся з гісторыка-культурным запаведнікам «Заслаўе». Там яны правялі фестываль этнаграфічных калектываў, якія працуюць пры школьных музеях вобласці. З цікавымі праграмамі выступілі юныя артысты-этнографы з Вузлянскай базавай школы Мядзельскага, Івянецкай СШ Валожынскага і Лебедзеўскай СШ Маладзечанскага раёнаў, Заслаўскага Дома дзіцячай творчасці.

Спадабаліся школьнікам заняткі, арганізаваныя ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі і ў Дзяржаўным мастацкім музеі рэспублікі.

— Такія злёты мяркуем праводзіць кожны год. Маладое пакаленне павінна добра ведаць гістарычную спадчыну сваёй Бацькаўшчыны, — зазначыла дырэктар абласной станцыі турыстаў Зоя Казіміраўна Ліпніцкая.

### НАДВОР'Е

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра — 14--19, у Мінску — 15--17 градусаў цяпла, кароткачасовы дождж.*



■ Актуальное интервью

## НАРУШИТЕЛЬ ПОРЯДКА – "ЗЕЛЕНЫЙ ЗМИЙ"

**На вопросы нашего корреспондента отвечает начальник отдела охраны общественного порядка УВД облисполкома полковник милиции Б.П.КАРАЙБОГ.**

***— Борис Павлович, смотрю на статистические данные и глазам не верю: около 80 процентов всех тяжких преступлений, а это и убийства, и разбои, и грабежи, совершено пьяными преступниками. Значит, если оздоровить общество, то преступность сойдет на нет?***

— Вопрос сложный. Сколько раз мы пытались запретить, ужесточить, а воз и ныне там. У «зеленого змия» опять отрастают головы. Но сдерживающий фактор все же был — исполнение антиалкогольного законодательства. В 1993 году к административной ответственности привлечено почти 100 тысяч нарушителей, или каждый 15-й житель области, более 20 тысяч помещались в медвытрезвители. Составлено 3.579 протоколов на лиц, занимающихся изготовлением и хранением крепких спиртных напитков домашней выработки, в отношении 135 самогонщиков возбуждены уголовные дела за изготовление «зелья» с целью сбыта, 360 человек направлены на принудительное лечение в ЛТП.

***— Самое печальное — все решили, что есть более важные проблемы, чем пьянство. Этакая атмосфера всеобщего благодушия: демократия — значит, все дозволено. А между тем спиваются дети, гибнут взрослые, разрушаются семьи. Общество деградирует.***

— Совершенно верно. Отмахиваются, как от надоевшей мухи, от вопросов профилактики и предупреждения правонарушений и преступлений на почве пьянства исполкомы местных Советов, руководители предприятий, учреждений, организаций, другие должностные лица. А ведь милиция не всесильна. Ей везде не успеть. Практически во всех трудовых коллективах Борисова, Жодино и Солигорска, Минского района игнорируются сообщения правоохранительных органов. Даже удержание штрафов производится несвоевременно.

Сплошь и рядом допускается распитие спиртных напитков на рабочих местах. Нарушение антиалкогольного законодательства на производстве допускают и руководители. За появление на работе в нетрезвом состоянии привлечен к административной ответственности председатель Домановичского сельского Совета Солигорского района А.Кругленя. В медицинский вытрезвитель доставлялись начальник участка Второго рудоуправления Н.Алимов, председатель профкома этого же рудоуправления Г.Богомья, главный механик строительного управления № 105 стройтреста № 3 Солигорска М.Степурко, начальник снабжения завода «Калибр» Слуцка И.Шимко.

***— Доступность спиртного привела к тому, что пьянство станет, наверное, самым угрожающим бедствием в нашей республике?***

— И не только у нас. Расширение масштабов и объемов реализации спиртного, в том числе и иностранного производства, отсутствие контроля за качеством продукции наносит большой экономический и моральный ущерб государству. В прошлом [illegible] по причине пьянства свыше тысячи ч[illegible] доставлялись в медицинские учреж[illegible] из них 344 — скончались. Из 3.969 розничных торговых предприятий облпотребсоюза 1.928, или почти половина, торгуют винно-водочными изделиями. В 1993 году исполкомы местных Советов выдали в два раза больше лицензий коммерческим магазинам на право продажи спиртного, чем государственной торговле. Из 271 коммерческого магазина 225 торгуют винно-водочными изделиями, притом с серьезными нарушениями и злоупотреблениями. Только по Борисову выявлено 30 фактов продажи магазинами спиртного несовершеннолетним. Продолжают продавать спиртное возле учебных заведений, детских и лечебных учреждений, предприятий и строек.

Созрела настоятельная необходимость пересмотра подходов к решению задач борьбы с пьянством, координации всеобщих усилий.

*Ирина АНДРЕЕВА.*

■ Здарэнне

## Абдзерлі як ліпку

Вадзіцель транспартнай фірмы з горада Гдыня, што ў Польшчы, прывёз у сталіцу кантэйнер з запчасткамі да аўтамашын. Пераезд у другую дзяржаву завяршыўся ўдала: яго грузавая машына "Вольва" з кантэйнерам надзейна асталявалася на ахоўваемай стаянцы матэля "Мінскі". Здавалася, можна ўздыхнуць спакойна. З'явіўся і прадстаўнік фірмы, які павінен быў атрымаць гэты груз. Незнаёмец запрасіў паляка ў свае "Жыгулі" белага колеру: маўляў, трэба аформіць дакументы. Наіўны паляк згадзіўся. Па дарозе да іх падсеў яшчэ адзін "камерсант". Далей, як вы здагадваецеся, дзеянне нагадвала кінабаявік: адзін з "бізнесменаў" выхапіў пісталет і наставіў яго на паляка. Патрабаванне — адно: аддаць дакументы на аўтамашыну і груз! Што жыхар Гдыні выканаў без прамаруджвання. Затым паляку завязалі вочы і адвезлі на кватэру. Там ён знаходзіўся каля чатырох дзён. Гэтага часу зладзеям хапіла, каб аўтамашына і груз зніклі бясследна. А даверлівага паляка завезлі ў лес і там адпусцілі. Тады ён і кінуўся ў міліцыю: дапамажыце, абдзерлі як ліпку.

*(Наш кар.)*

## Портрет в интерьере

# ПОДАРОК ДЛЯ МАМЫ

**Живет в г. Борисове скромная, добрая женщина — Раиса Даниловна Петрище. Каждую неделю приносит ей почтальон письма. Из Санкт-Петербурга, Харькова, Мурманска, Москвы, Норильска, Минска, Жодино... В праздники почты еще больше. Все письма, открытки начинаются одинаково: «Здравствуй, дорогая мамочка!»**

Сколько же детей у Раисы Даниловны? Очень много. Все ее воспитанники — это ее сыновья и дочки.

То были дети войны. У них не было не только отцов и матерей, но и родственников вообще.

Война, разруха, 1944 год. В Борисове созданы четыре детских дома. Одним из них руководит Р.Д.Петрище. Холодно, голодно, дети болеют. Раиса Даниловна искала и нашла шефов в воинской части. Они помогли материально. Разыскала душевных и опытных медицинских сестер.

Раиса Даниловна никогда не читала воспитателям детского дома нотаций. Она просто любила своих мальчишек и девчонок. И все, кто рядом, видели, чувствовали это. И перенимали ее доброе отношение к детям. Кто оказывался не способен (а это единицы), уходили.

Дети платили тем же. Они любили чутких, внимательных, по-матерински щедрых Софью Константиновну Андрееву, Марию Клементьевну Смолич. Помнят их до сих пор. Приезжают к ним в гости.

Трогательная деталь. Когда умер директор одного из борисовских детских домов Павел Илларионович Новиков, очень многие воспитанники приехали на похороны своего отца. Поставили ему надгробный памятник. На его могиле всегда живые цветы.

Стало традицией — каждый год в первое воскресенье июня воспитанники Раисы Даниловны собираются на встречу. Со своим детством, со своей мамой.

Теплые, искренние воспоминания хранит о ней Геннадия Николаевна Комар-Новикова. После детского дома она поступила в школу фабрично-заводского обучения. Работала на хлебозаводе. Без отрыва от производства, с отличием, закончила Молодечненский политехникум. Потом политехнический институт. 30 лет проработала на хлебозаводе. Начинала рабочей, а на пенсию ее провожали уже начальником цеха. Вырастила сына, растит внука.

Такая же — трудовая — биография и у Галины Сергеевны Трипутень-Красиловой. И у ее брата Николая. Недавно он прислал с Севера своей маме подарок — теплые оленьи тапочки. И написал: «Мамочка, хочу, чтобы тебе в них стало тепло и уютно. И чтобы ты меня вспоминала, когда наденешь эти тапки».

Закономерный, по-моему, и красноречивый факт: ни один из воспитанников Раисы Даниловны не стал вором или бандитом. Все они честно трудятся. Никто из них не отведет глаза от внимательного взгляда своей мамы. А она все видит и всегда спросит: «Как живешь, сынок?», «Как дела, дочка?»

Я листаю альбомы. В них фотографии парней и девчат. Потом свадебные фото, семейные — с детьми. И на всех надпись: «Дорогой маме».

В первое воскресенье июня будет новая встреча. В этом году особенная — посвященная 50-летию детского дома. Придут, приедут взрослые дети, чтобы еще раз низко поклониться удивительной женщине — Раисе Даниловне Петрище.

*Светлана СМОЛЬСКАЯ, учитель средней школы №20 г. Борисова.*

## 31 мая — День борьбы с курением

### ПОБЕДИЛИ ПРИВЫЧКУ — УКРЕПИЛИ ЗДОРОВЬЕ

*Знаю одну женщину, которая к тридцати годам стала выглядеть едва ли не старухой. Хриплый голос, дряблое лицо в морщинах, которые не в силах скрыть даже косметика. К тому же ее одолели бессонница, плохой аппетит, частый кашель. Причиной такого преждевременного старения оказалась сигарета. Как выяснилось из разговора, курить она стала в восьмом классе. Взять сигарету подбила подружка. Сначала было интересно, потом появилась привычка. А когда не сложилась семейная жизнь — чтобы успокоить нервную систему. Выкуривала до пачки сигарет в день. И вот каков результат к тридцати годам.*

*Я посоветовала ей бросить курить. Но она лишь развела руками: «Пробовала. Ничего не получается».*

*Что ж, человек сам в ответе за свое здоровье. И все-таки хотелось бы напомнить тем, кто имеет пристрастие к сигарете: табачный дым — сложная смесь ядовитых веществ. Он содержит аммиак, окись углерода, синильную кислоту, канцерогенные смолы. Всего до 2 тысяч компонентов, которые никоим образом не содействуют укреплению здоровья, а, наоборот, разрушают его. Через язву желудка, эмфизему легких, инфаркт миокарда и другие заболевания.*

*Но вот проблема — как бросить курить? Одни курильщики переходят, как они утверждают, на менее вредные сигареты. Благо, нынче в «комках» выбор их огромный. Другие считают, что расстаться с табаком невозможно. А третьи вообще утверждают: если втянулся в курение, то бросать нельзя. Ибо организм уже привык к никотину и «перестройка» пойдет только во вред.*

*Со всей серьезностью заявляю: ни одна их этих причин не состоятельна. Человек может бросить курить. Если осознает самоценность своего здоровья и вред, который ему наносит сигарета. Есть немало методик, медикаментов, которые помогают человеку избавиться от привычки к табачному дыму. Но никогда не надо отчаиваться, что «у меня не получится». Не получилось с первого раза — начинайте снова. Шаг за шагом — и вы преодолеете этот психологический барьер. И однажды наступит момент, когда, проснувшись рано утром, вы не потянетесь рукой к столику, на котором лежит коробка сигарет. Вы победили привычку, значит, укрепили здоровье.*

*Людмила Жиевская, врач Минского областного центра здоровья.*



*Весела, цікава праводзяць свой вольны час працаўнікі палёў і ферм Бярэзінскага раёна. Вечарамі доўга не гасне святло ў Дамах культуры. Нязменным поспехам карыстаецца выступленне фальклорнага калектыву Гарэніцкага сельскага клуба "Лучына". Цёпла прымалі іх у родным калгасе "Бярэзінскі", на раённых святах. А наперадзе — новыя дарогі, новыя сустрэчы. Бо песня і праца побач ідуць.*

***На здымках:** салістка ансамбля Любоў Андрэеўна **Рахманько;** у час рэпетыцыі.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*



**ГАИ информирует**

# ВЕЧНОЕ ПРОТИВОРЕЧИЕ: ВОДИТЕЛЬ — ПЕШЕХОД

С начала года в Минской области зарегистрировано 230 дорожно-транспортных происшествий. В 96 случаях они квалифицируются как автонаезды на пеших участников движения.

Общеизвестно: пьяный на дороге — потенциальный преступник. Однако находятся "смельчаки", продолжающие испытывать свою судьбу. Думаю, поэтому в области каждый четвертый автонаезд совершается на почве злоупотребления спиртным.

В воскресный вечер электромонтер Логойского узла связи А.Тимошенко, приняв горячительного, направился на автодорогу Минск — Витебск. На 64-м километре шоссе после встречи с легковушкой он остался лежать на асфальте с сотрясением мозга. Травмирован временно не работающий минчанин В.Пукачек, который в нетрезвом состоянии пытался перебежать проезжую часть шоссе Минск — Брест в Дзержинском районе перед близко идущими "Жигулями". Затем несчастье произошло в Жодино. На улице 40 лет Октября автомашиной "Форд" сбит местный житель В.Козловский. Пьяный пешеход переходил дорогу в неустановленном месте и погиб.

Не лучшим образом ведут себя и водители. Нередко они, не имея прав и элементарных навыков вождения, садятся за руль, иные отправляются в путь предварительно "разогревшись", игнорируя закон, пренебрегая опасностью. За подобные действия, как правило, приходится расплачиваться ценой жизни и здоровья окружающих. Этот путь оборачивается уголовным преступлением.

Ночью водитель столичного таксомоторного парка № 1 Л.Сурмачевский, управляя машиной ГАЗ-2410, позволил себе выпить. После этого, посадив в салон автомашины сразу пять пассажиров, он поехал в Дзержинск, забыв о всякой ответственности. В пути следования водитель-профессионал не заметил стоящий на правой обочине грузовик. В результате аварии пострадали и Л.Сурмачевский, и все пассажиры, один из которых от телесных повреждений скончался на месте происшествия. По данному факту автонаезда возбуждено уголовное дело.

Как можно убедиться, любая ошибка или халатность на дороге всегда приводит к непоправимой беде, причем в столкновении автомобиля и пешехода в самом тяжелом положении оказывается последний. Анализируя эти дорожно-транспортные происшествия, все чаще и чаще приходится вспоминать о дефиците милосердия к пострадавшему. С начала весны в области водители 11 раз оставляли жертву автонаезда без оказания первой медицинской помощи. Почти в каждом втором случае ожидание "скорой" оказалось роковым.

В Слуцке автомашиной "Москвич" на пешеходном переходе была сбита пенсионерка М.Забелина. Бросив 69-летнего пешехода на произвол судьбы, водитель с места ДТП скрылся. К счастью, женщине смогли быстро оказать помощь очевидцы, а своевременно принятыми мерами розыска виновный был установлен и задержан.

Согласитесь, горько осознавать, что еще есть люди, чей страх за содеянное толкает на преступление перед чувством простого человеческого долга. Именно личный эгоизм, боязнь "запачкаться", протянув руку помощи ближнему, превращают в одну минуту человека, для которого не существует ничего святого.

Кто виноват, кто прав? — эти вопросы возникают, когда под колесами автомобиля вдруг оказался человек. Печальная статистика свидетельствует: 42 процента всех "ЧП" — на счету водителей, 58 — пешеходов. Основные причины их знакомы даже школьнику. Это грубое нарушение установленных правил, снижение культуры поведения. Замечу: времена меняются, а психология и поступки людей — увы, нет! Что ж, придется напомнить, что доброта и чуткое отношение друг к другу всегда помогают нам в сложной ситуации. Об этом нужно помнить.

*Сергей ШОСТАК, сотрудник ГАИ УВД облисполкома.*

## СПОРТ

### НА ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ

У Прагу, дзе пройдзе чэмпіянат Еўропы па спартыўнай гімнастыцы сярод мужчын, выехала зборная каманда Беларусі. У яе саставе шэсць спартсменаў, сярод якіх і нашы лідэры мінчане Віталь Шчэрба і Іван Іванкоў.

Спаборніцтвы пройдуць у мнагаборстве і на асобных снарадах, будзе праводзіцца камандны залік.

### БАМБАРДЗІРЫ З "ЦІВАЛІ"

Чатыры хакеісты мінскай каманды "Цівалі", якая другі год запар стала чэмпіёнам Беларусі, ўваходзяць у шасцёрку лепшых бамбардзіраў. Спіс самых трапных узначаліў Скабелка, які забіў 21 шайбу і зрабіў 9 дакладных перадач. Па васемнаццаць ачкоў набралі Чарняўскі і Панкоў, семнаццаць — Шыткоўскі.

Вось як выглядае выніковая табліца чэмпіянату, дзе ўсе каманды правялі па шаснаццаць гульняў:

| | В | Н | П | Ш | А |
|---|---|---|---|---|---|
| "Цівалі" (Мінск) | 15 | 1 | 0 | 95-28 | 31 |
| "Нёман" (Гродна) | 10 | 1 | 5 | 74-58 | 21 |
| "Хімік" (Наваполацк) | 10 | 0 | 6 | 78-49 | 20 |
| "Тарпеда" (Мінск) | 3 | 1 | 12 | 50-90 | 7 |
| "Юнацтва" (Мінск) | 0 | 1 | 15 | 37-107 | 1 |

### ВЯРНУЛІСЯ З УЗНАГАРОДАМІ

З Кіева на мінулым тыдні вярнуліся беларускія вадналыжнікі, якія прымалі ўдзел у міжнародным турніры. Яны занялі другое каманднае месца, уступіўшы толькі зборнай Расіі.

І ў асабістых спаборніцтвах беларускія спартсмены занялі прызавыя месцы. У мнагаборстве Алеся Кохан набрала трэцюю суму балаў. Яна была другой у фігурным катанні, трэцяй — у скачках з трампліна і чацвёртай — у слаламе.

Сярод мужчын беларускія вадналыжнікі Максім Дзікі і Ян Кохан занялі першыя два месцы.

### СЕНСАЦЫЯ І НЯМА ІНТРЫГІ

Зусім нядаўна ў чэмпіянаце Рэспублікі Беларусь цяжка было прадказаць пераможцу. Лідэрства з аднолькавымі шанцамі ўтрымлівалі мінскія каманды "Дынама" і "Дынама-93". Але ў апошніх турах выхаванцы Івана Шчокіна пачалі губляць ачкі, і перавага мінулагодніх чэмпіёнаў пачала павялічвацца. Пасля сенсацыйнага паражэння ў Віцебску ад "Лакаматыва" — 0:1 інтрыга вакол чэмпіёнскага звання, можна сказаць, знікла. Выйграўшы ў нядзелю ў старадарожскага "Будаўніка" з лікам 4:0, мінскія дынамаўцы маюць цяпер 44 ачкі і на пяць ачкоў апярэджваюць сваіх бліжэйшых канкурэнтаў. Камандзе "Дынама-93" цяпер трэба не ўпусціць сярэбраныя ўзнагароды.

Трэцяе месца займае магілёўскі "Днепр", які ў гасцях выйграў у "Гомсельмаша" — 1:0. За чатыры туры да фінішу ў яго 35 ачкоў. Чацвёрты і пяты радкі турнірнай табліцы займаюць віцебскі КІМ і "Маладзечна" — 34 і 28 ачкоў. У 26-м туры яны сустракаліся паміж сабой і разышліся мірна — 0:0.

А вось вынікі астатніх матчаў прайшоўшага тура: "Шахцёр" (Салігорск) — "Нёман" (Гродна) — 0:0, "Тарпеда" (Мінск) — "Фандок" (Бабруйск) — 2:1, "Ведрыч" (Рэчыца) — "Шыннік" (Бабруйск) — 3:2, "Тарпеда" (Магілёў) — "Дынама" (Брэст) — 1:3.

Матчы наступнага тура пройдуць 3 чэрвеня.

*/Наш кар./*

## Хатні экран!

### 31 мая, аўторак

**Беларускае тэлебачанне**

16.10. "Мой боль вырастае да зор...".
17.00. Да Міжнароднага дня барацьбы з курэннем.
17.20. Дзелавая хроніка.
17.30. Навіны (з сурдаперакладам).
17.40. Мост.
18.05. Зачытайце маё пісьмо...
18.10. Абласныя навіны (Віцебск).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Эканамічная хваля. Прыватызацыйныя чэкі.
19.40. "Так гэта было...". Расказвае былы партызан Аляксандр Фёдаравіч Хацкевіч.
20.10. ТА "Рэха". Крэда.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. Пяць хвілін на жарты.
21.50. "Сенсацыя" (Італія). 1-я серыя.
22.45. "Валадарская дружына".
23.30. Стоп-кадр.
23.50. Надвор'е.
24.00. НІКа.

**Канал "Астанкіна"**

14.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
15.00. Справа.
15.10. "Прыгоды Тома Соера". Мультфільм.
15.40. Чароўны свет, ці Сінема.
16.00. 440 герц.
16.40. Планета. Масква—Сеул.
17.25. Аўта-шоу.
17.35. Дзень без тытуню.
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. З першых рук.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа". Тэлесерыял (Мексіка).
18.55. Тэма.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Сустрэчы для вас. Л.Лявонаў.
21.10. "Маме спаўняецца 100 гадоў" (Іспанія).
23.10. Хіт-парад "Астанкіна".

**Канал "Расія"**

15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
16.00. Новая лінія.
16.45. М-трэст.
17.00. Не быць дыназаўрам.
17.15. Галасы. Маладзёжная праграма.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. Прасцей простага.
18.40. "Пецярбургскі гурман".
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Ціхі дом.
21.15. Я — лідэр.
21.40. Маскі-шоу.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Экран крымінальных паведамленняў.
23.05. "Асінцаў баль".

### 1 чэрвеня, серада

**Беларускае тэлебачанне**

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.35. "І быў вечар, і была раніца...". Д/ф.
8.45. "У добры шлях!". Выступленне міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь В.А.Гайсёнка.
8.55. ТБ — школе.
9.00. "Сенсацыя". 1-я серыя.
9.55. Аэробіка.
10.30. ТА "Рэха". Крэда.
12.40. Тэлевізійны Дом кіно.
13.30. Навіны.
15.00. Відзьма-нявідзьма.
16.00. "Бацькі і дзеці".
17.30. Навіны (з сурдаперакладам).
17.40. Чарнобыль: праблемы і вырашэнні.
18.10. Абласныя навіны (Гомель).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Пяць зорак.
19.55. Дзелавы партнёр.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. Пяць хвілін на жарты.
21.50. "Сенсацыя". 2-я серыя.
22.45. "Валадарская дружына".
23.30. Дзесяць хвілін плюс стагоддзе.
23.40. Надвор'е.
23.50. НІКа.

**Канал "Астанкіна"**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.05. Навіны.
8.20. "Ранішняя песенька".
8.35. "Дзікая ружа".
9.00. Клуб падарожнікаў.
9.50. На балі ў Папялушкі.
10.50, 0.15. Прэс-экспрэс.
11.20. "Джыўс і Вустэр".
12.10. Тэніс.
12.40. "Надзея".
13.30. "Востраў капітанаў".
14.25. Прадпрымальнік.
15.10. "Прыгоды Тома Соера". Мультфильм.
15.40. Усерасійскі конкурс юных выканаўцаў.
16.40. Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25. Мініяцюра.
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. Тэхнадром.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
19.00. Пяць крокаў ад Крамля.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Маналог.
20.55. Фестываль зорак "Монтэ-Карла-94".
21.50. "Настасся. Загадка Ганны". 2-я серыя.
23.10. Працяг "Монтэ-Карла-94".
23.45. "Кураня смажанае". Д/ф.

**Канал "Расія"**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30. "У свеце музыкі". М.І.Глінка.
9.35. Тэлегазета.
9.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія. "Далёкі Усход".
16.50. Прэм'ера д/ф "Дзеці Расіі".
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. Панове-таварышы.
18.10. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Ніхто не забыты.
20.30. Вялікі скандал.
21.05. Фільм-прэм'ер.
21.25. Хакей. Фінал кубка Стэнлі.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Хакей. Фінал кубка.

## 8 канал

### 31 мая, вторник

18.00. Многосерийный фильм "Карусель".
18.20. Музыкальная программа.
19.00. Телесериал "Лабиринт правосудия", "Непредвзятое отношение".
19.50. Студия "ИНТЭКС". Новости.
20.00. Мультсериал "Вольтрон".
20.30. Телесериал "Морена Клара". 17 серия.
21.20. Сделай себе карьеру.

### 1 июня, среда

18.00. Многосерийный фильм "Карусель".
18.20. Музыкальная программа.
18.50. Журфак БГУ представляет...
19.00. Полицейский сериал "Хилл Стрит Блюз", "Скажи как есть".
19.50. СОЛТЭК. Новости.
20.00. Мультсериал "Вольтрон".
20.30. Телесериал "Морена Клара". 18 серия.
21.20. Астра-класс.
21.45. Классика зарубежного кинематографа. Художественный фильм "Борец".



*Управление по печати Миноблисполкома с 1 июня 1994 г. ликвидируется. Претензии предъявлять до 20 июня с.г.*

*Ликвидационная комиссия Миноблисполкома.*

**Наш адрас:** 220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі —68-29-76, намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81, адказнага сакратара —68-26-48, сакратарыята —68-26-48, аддзелаў: Саветаў —68-26-38, адукацыі і культуры —68-25-76, сацыяльна—эканамічнага —68-25-43, грамадска-палітычнага —68-25-42, інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33, пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83, ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48, камерцыйнага — 68-25-86, бухгалтэрыі —68-26-65.

Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК – Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4. "Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА,

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.

Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.

Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе. "Мінскай праўды". Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.

Тыраж 17763. Індэкс 63923. Зак № 56.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12